

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.*

# Газета Слонімская

№ 35 (116). 26 жніўня — 1 верасня 1999г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах. Кошт 30.000 руб.

**На прошлой неделе православные верующие отметили праздник "Преображение Господа Бога". Этот праздник имеет свою особенность. Считается, что до этого дня нельзя есть яблоки, груши, сливы, виноград и другие фрукты. В народе этот праздник ещё называют "Яблочным Спасом". В этот день люди, как эта женщина на снимке, направлялись в храм, чтобы освятить яблоки.**



Фота Мікалая СУПРУНА

## 12-ЛЕТНИЙ МАЛЬЧИК ПОКОНЧИЛ ЖИЗНЬ САМОУБИЙСТВОМ ИЗ-ЗА ТОГО, ЧТО ЕМУ ОТКАЗАЛИСЬ КУПИТЬ НОВЫЕ КРОССОВКИ

**Эта жуткая история произошла на днях в Ружанах Брестской области. 12-летний школьник, учащийся одной из минских школ, покончил жизнь самоубийством из-за того, что мать... отказалась купить ему новые кроссовки.**

Самоубийству предшествовал конфликт с матерью, которая приехала в Ружаны за сыном, где он проводил каникулы. Новая обувь, которую мать приготовила мальчику к школе, просто-напросто не понравилась ему. Подросток начал капризничать, в ответ на что мать возмутилась и отказалась взять его с собой в магазин за покупкой кроссовок. Вернувшись, женщина не особо искала сына — он мог быть у друзей. Однако поздно вечером, перепуганные отсутствием ребенка мать и прабабушка, стали искать его и нашли повешенным на чердаке дома.

**Валентина КОЗЛОВИЧ**

## ИНВАЛИДЫ ПРОСЯТ ПОМОЩИ

**Сегодня средний размер пенсии по инвалидности составляет 2,5-4 млн. рублей. Каждые пять лет инвалиды проходят медицинское переосвидетельствование, на котором врачи заново определяют степень нетрудоспособности.**

Причем, этому подвергаются даже безрукие, безногие, парализованные люди. Как будто за некоторое время у них вырастут новые руки или ноги! Более того, оказывается, чтобы бесплатно получить новый протез, культя должна быть определённой длины.

Об этих и других проблемах говорили слонимские инвалиды на заседании своего общества. В частности председатель совета этой организации Галина Викторовна Сазонкина отметила, что в настоящее время 1883 инвалида (столько их сейчас насчитывается в обществе) просто бедствуют. А инвалиды первой группы по Закону о труде вообще не имеют права подработать (хотя многие из них не прочь бы изготовить что-либо на продажу). Доходы от производственной деятельности цеха — мизерные, по причине низкой рентабельности, которую нельзя поднять из-за высоких закупочных цен на сырье. Более того, столярный цех требует срочной реконструкции. Ту гуманитарную помощь, которая поступает в общество, трудно доставить в Слоним из Минска и Гродно, поскольку единственный грузовик из-за неисправности даже не может выехать из гаража. Как сказала Галина Сазонкина, посильную помощь инвалидам оказывают мебельная фабрика, КПФ, КБЗ, фабрика "Текстильщик". Однако и этих средств не хватает, чтобы поднять жизненный уровень инвалидов. За помощью Галина Викторовна обращалась в слонимские горрайисполкомы, отделы социального обеспечения и на многие другие предприятия. Однако только горсобес дал 55 инвалидам по 1 млн. рублей каждому. Остальные ведомства сослались на отсутствие финансов.

Слонимское общество инвалидов было создано потому, что вместе легче выжить. Но, по словам Галины Сазонкиной, эту организацию приравняли к юридическим лицам и обязали платить семь видов налогов, а сейчас "освободили" и от льгот.

**Валентин ЧУРИЛО**

## Непадрэбнае дабро

**Прадпрыемства АТ "Мастоўдрэў" займае вялікую тэрыторыю, і таму вартаўнікам, асабліва ноччу, не проста абысці зону аховы. З гэтай нагоды службе аховы дазволілі карыстацца веласіпедамі, якія прадпрыемства спецыяльна закупіла.**

Аднак варта не спяшаецца карыстацца гэтым транспартам, бо за веласіпед мусіць быць адзін матэрыяльна адказны чалавек, у той час як веласіпедам могуць карыстацца ўсе вартаўнікі. З перасцярогі, што веласіпед у адсутнасць "гаспадара" можа знікнуць ці сапсавацца, ніхто не бярэ на сябе смеласць быць адказным за двухколкі, і таму, па-ранейшаму, вартаўнікі ахоўваюць прадпрыемства пешшу.

**Антон МАКЕЙ**

## КОРОТКО...

***

25 августа, в среду, в 18.00 Александр Лукашенко примет участие в прямом эфире передачи «Здесь и сейчас» канала «ОРТ» (Россия).

***

Курс доллара США на "чёрном" рынке обмена наличной валюты вырос в среднем на 10 тысяч рублей и составил: 480 000-485 000 рублей за один доллар при покупки и 490 000-495 000 рублей при продаже.

***

Совет Министров Беларуси принял постановление «О поставке продуктов животноводства для г.Минска во втором полугодии 1999 года». Согласно этому документу, Гродненский облисполком должен отправить в столицу 2 тысячи тон мясопродуктов и 19 тысяч тонн молока.

***

З 1 верасня пачнуць дзейнічаць новыя тарыфы на электраэнергію: гарадскому насельніцтву свет будзе каштаваць 1220 рублёў за адзін кВт/гадзіну, вяскоўцам — 820 рублёў за адзін кВт/гадзіну.

***

На прошлой неделе Слоним посетила 2-й секретарь посольства США в Минске госпожа Энн Карсон. Она встретилась с представителями местных властей, а так же с руководителями религиозных конфессий Слонимщины.

## Мяса па пашпарту

**Сёння, каб у магазіне купіць мясныя прадукты (акрамя мяса, вяндліны і вэнджанай каўбасы) трэба паказаць пашпарт з прапіскай г.Слоніма або Слонімскага раёна.**

Такія "прагрэсіўныя" нովаўвядзенні зроблены па загаду слонімскага гарвыканкама і ўступілі ў сілу з 16 жніўня. Па словах дырэктара аднаго з прадуктовых магазінаў горада, загад уведзены ў сувязі з масавым вывазам мяснай прадукцыі за межы краіны. Гэта яшчэ раз падцвярджае: купляем мы не многа, выраблясм мала.

**Вольга ШЫНКЕВІЧ**

## Водны "палтэргейст"

**На днях у рэдакцыю "ГС" завітала жыхарка дома №11 (кв18) па вуліцы Скарыны ў Слоніме Галіна Казлоўская.**

Яна паведаміла, што насельнікі дзесяці кватэр у іхнім пад'ездзе час ад часу церпяць своеасаблівы водны "палтэргейст" — з абодвух кранаў у іх кватэрах цячэ толькі гарачая вада. Жыхары звярталіся па дапамогу да спецыялістаў ЖЭС, але, па словах жанчыны, тыя ніяк не могуць устанавіць прычыну "дзіўных паводзін" водаправода.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

Григорий ЯВЛИНСКИЙ:

## «ХОТИТЕ ЗАНИМАТЬСЯ ИНТЕГРАЦИЕЙ — ЗАНИМАЙТЕСЬ КОНКРЕТНЫМИ ЭКОНОМИЧЕСКИМИ ВЕЩАМИ»

**Нельзя сказать, чтобы кто-нибудь из нас ощутил в своей повседневности плоды союза России и Беларуси.**



Разговоры же на эту тему ведутся давным-давно. И периодически мы слышим из Минска голос Лукашенко, который упрекает российскую сторону во всех грехах. Нет сомнений в том, что со стратегической точки зрения сближение России и Беларуси совершенно необходимо. Мы — братские народы, мы связаны кровью Отечественной войны, бесчисленными жертвами, которые понесли в ней и Беларусь, и Россия; наконец, нас связывает колоссальная катастрофа, которая произошла в Чернобыле. Поэтому, как мне представляется, не Лукашенко и Ельцину объединять наши народы, мы и так соединены всей историей. Иной вопрос, как поступать после того, что натворили в Беловежской пуще?

Нельзя не замечать опасностей, не видеть подводные камни, которые нам угрожают. Насколько, скажем, законны сегодняшние намерения относительно союза России и Беларуси? Все это не соответствует российским законам, российской Конституции. Что сулит единение этих двух государств? Думаю, что сразу появятся новые горячие точки в Брестской, Витебской, Гродненской областях, где активно действует Белорусский народный фронт. В России усилится нестабильность. Кстати замечу, идеи, которые выражает Белорусский народный фронт, на мой взгляд, имеют основания. Я, например, тоже не сторонник подавления Беларуси как самостоятельного национального государства. Не вижу в этом никакой необходимости и никакой целесообразности. И вообще, на мой взгляд, манипулирование государственным суверенитетом Беларуси — вещь непристойная и опасная, хотя она, очевидно, очень сильно нравится российской политической элите.

**(Продолжение на 4 стр.)**

# НЕЗАЙЗДРОСНЫ ЛЁС СЛОНІМСКАЙ КНІГІ "ПАМЯЦЬ"?

**Ужо больш дзесяці гадоў ідзе праца над кнігай "Памяць", гісторыка-дакументальнай хронікай Слонімскага раёна.**

Нагадаем, што ідэя стварэння кніг "Памяць" з'явілася ў 1980-я гады ў Беларусі. Меркавалася выпусціць падобныя выданні для кожнага раёна і змясціць у іх спісы ахвяраў Вялікай Айчыннай вайны. Акрамя таго, у кнізе "Памяць" павінны быць матэрыялы па гісторыі горада і раёна ад старажытнасці да нашага часу. Па некаторых звестках, слонімская кніга "Памяць" павінна была стаць эксперыментальнай, у двух тамах. Гэтаму спрыяў наш зямляк Уладзімір Ламека, які працаваў у Мінску. На працу па стварэнню кнігі былі выдзелены вялікія па тых часах грошы. Засталося толькі падрыхтаваць і завезці ў выдавецтва рукапіс і ілюстрацыі.

Па словах гісторыка Васіля Супруна, свае матэрыялы для кнігі "Памяць" ён здаў яшчэ дзесяць гадоў назад, у 1989 годзе. Праўдападобна, тады ж былі падрыхтаваны і спісы слонімцаў, якія загінулі на франтах, у партызанскім руху, ад рэпрэсій фашысцкіх акупантаў. Яны друкаваліся ў раённай газеце. Аднак развалiўся Савецкі Саюз, і выданне кнігі "Памяць" адцягвалася на неакрэслены тэрмін...

Частка выдзеленых грошай пайшла на аплату паслуг фотаатэлье, якому замовілі пераняць некалькі тысяч сабраных у людзей фотаздымкаў. Аднак зробленыя здымкі аказаліся не таго памеру ці якасці. У выніку, у мінскім выдавецтве іх забракавалі... Яшчэ частка сродкаў пайшла на камандзіроўкі людзей, якія працавалі над кнігай "Памяць". У выніку, і сёння выданне яшчэ не пабачыла свет. А між іншым, свае кнігі "Памяць" ужо маюць Бярозаўскі, Ляхавіцкі, Пружанскі, Гродзенскі, Навагрудскі і шмат іншых раёнаў Беларусі.

Лізавета Мукасей, упраўляючая справамі райвыканкама, якая ўвесь гэты час курыруе стварэнне слонімскай кнігі "Памяць", гаворыць: "Пакуль мы працуем над кнігай. Цяпер змяняецца канцэпцыя. А калі кніга будзе гатовая, не ведаю і пакуль не магу сказаць"...

Сапраўды, цяжка сказаць, калі з'явіцца гэтая шматпакутная кніга. Праўдападобна, за прайшоўшае дзесяцігоддзе многія тэксты патрабуюць зменаў. Неабходна ў кнігу "Памяць" уключаць спісы людзей, рэпрэсіраваных савецкімі ўладамі, спісы мірных жыхароў-ахвяр савецкіх партызанаў, спісы слонімцаў, якія загінулі пасля вайны ў час барацьбы з "бандытызмам" і шмат што іншае. І, нарэшце, варта было б ужо вызначыць час завяршэння гэтай працы.

**Сяргей ЁРШ**

НАВІНЫ

# ХРЫСЦІЯНСКІ ВЕЛАПРАБЕГ

**У нядзелю, 22 жніўня, у Слоніме ў двары дома №6 па вуліцы 17-га Верасня адбыўся незвычайны канцэрт.**

Маладзёжная група (30 чалавек) евангельскіх хрысціян-баптыстаў спявала песні, чытала вершы, раздавала прысутным рэлігійную літаратуру. Гэтыя юнакі і дзяўчаты - удзельнікі велапрабегу па маршруту Брэст - Гродна, прысвечанага 2000-годдзю Нараджэння Хрыстова. Старт велапрабегу быў дадзены ў Брэсце.

Кіраўнік і каардынатар маладзёжнай работы царкваў евангельскіх хрысціян-баптыстаў Гродзенскай вобласці Юрый Раманчык сказаў карэспандэнту "ГС", што маршрут сплнаваны па самых аддаленых вёсках Брэсцкай і Гродзенскай абласцей. Для сялян моладзь спявае духоўныя песні, расказвае, як знайсці шлях да Бога. "Калі хоць некалькі чалавек з той колькасці людзей, з якімі мы сустракаліся, павераць у Бога і пакаюцца ў сваіх грахах, то, значыць, мэта нашага велапрабегу будзе дасягнута", – заявіў спадар Раманчык.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

ПОШТА

# НЯЎДАЛЫ АДПАЧЫНАК

**Аднойчы ў суботу мы вырашылі адпачыць і правесці выхадны дзень весела, з добрым настроем.**

Нас сабралася добрая кампанія, восем чалавек , сярэдні ўзрост – трыццаць год. Спачатку пайшлі ў рэстаран "Шчара", але ўсе столікі былі ўжо занятыя. Там сядзелі адныя малагодкі. Мы накіраваліся ў кафэ "Жамчужына", але ж і там не было для нас месцаў – дваццаць-цігадовыя запаланілі кафэ. Нам нічога не засталося, як гуляць па начным Слоніму.

Атрымоўваецца, што трыццацігадовым людзям няма куды пайсці адпачыць. У нашым горадзе няма клуба па інтарэсах. Напрыклад, "Для тых, каму за трыццаць". Няўжо людзі, якія працуюць цэлы тыдзень, не могуць за свае грошы адпачыць, як ім падабаецца? А вось малагодкі не працуюць, а гуляюць і адпачываюць лепш за тых, хто за працаю не мае вольнай хвіліны.

**Ірына СЯРГЕЕВА, сланімчанка.**

ПРАБЛЕМА



Фота Міколая СУПРУНА

*Собака, конечно, друг человека, но не свора дворняг, которые сейчас свободно разгуливают по Слониму*

НАВІНЫ

## Фермераў пабольшала

**Мастоўскі райвыканкам прыняў рашэнне аб арганізацыі фермерскай гаспадаркі Фільмановіча.**

Акрамя таго пашырылі свае землеўладанні і іншыя фермеры. Увогуле за апошні год плошча зямельных сялянскіх гаспадарак павялічылася на 200 гектараў. Усяго ў раёне 10 фермерскіх гаспадарак.

Тым часам не скарыстоўваецца 197 зямельных участкаў пад індывідуальную забудову і пустуюць 250 участкаў зямлі ў садовых таварыствах. У гэтым годзе за парушэнне зямельнага заканадаўства прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці 71 чалавек.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Горгаз імкнецца да волі

**Мастоўскія газавікі вырашылі, што за карыстанне газам фізічныя асобы і прадпрыемствы павінны плаціць непасрэдна на рахунак самой арганізацыі.**

Неплацельшчыкаў будуць проста адключаць. Да гэтага, як вядома, спажыўцы газу плацілі камунальнай службе.

## Пляшка кефіру на пяцярых

**Так у мастоўскай раённай бальніцы дзеляць кефір для хворых.**

Калі яшчэ год назад хвораму налівалі поўны 200-грамовы стакан, то зараз належыць выдаваць толькі сто грамаў на чалавека.

**Антон МАКЕЙ**

## "Дажынкі": часнык з півам

**У мінулую суботу ў Мастах адбылося раённае свята – "Дажынкі".**

На пляцоўцы перад домам культуры было выстаўлена некалькі гандлёвых кропак, дзе прадавалі сельгаспрадукцыю, у большасці сваёй часнык, цыбулю... ды піва. Перад трыма дзесяткамі чалавек выступіла некалькі штатных райвыканкамаўскіх прамоўцаў, якія распавядалі пра вялікі ўраджай і гераічнае змаганне калгаснікаў на жніве. Потым праспявалі самадзейныя артысты. Гэтае свята запомнілася і тым, што старшыні калгасаў у складчыну зацвердзілі прыз у 16 мільёнаў рублёў футбалісту, які заб'е пераможны гол у матчы паміж мясцовым "Нёманам" і слонімскім "Камунальнікам". На жаль, ён так і застаўся незапатрэбаваны – перамаглі госці.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

ЭКАНОМІКА

## Стране необходимы 82 триллиона рублей

**Для того, чтобы полноценно подготовить страну к зиме, необходимы 82 триллиона рублей эмиссионных денег – об этом заявил вице-премьер правительства Беларуси Борис Батура.**

В то же время, по его словам, такой объем эмиссии невозможен, реально можно говорить лишь о 42 триллионах рублей.

Борис Батура заявил, что правительству известны те проблемы по подготовке к зиме, которые регионы не могут решить из-за недостатка финансовых средств, заложенных в бюджете. Самые сложные из них – формирование запаса топлива, а также капитальный ремонт фонда жилья и объектов социального назначения.

**БелаПАН**

ФОТАІМГНЕННЕ



Фота Міколая СУПРУНА

*Так падобна на нашу эканоміку*

## Всю валюту государство будет забирать себе

**В ближайшее время белорусскими властями может быть принято решение о значительном увеличении процента обязательной продажи валютной выручки на торгах валютно-фондовой биржи.**

Как стало известно БелаПАН, подготовлено несколько проектов указа президента, в одном из которых эта цифра доходит до ста процентов. Сейчас предприятия-экспортеры обязаны продавать на бирже по заниженному курсу 30 процентов валютной выручки.

По мнению вице-президента Белорусского союза предпринимателей Александра Потупы, подготовка такого указа вызвана необходимостью закупки за границей зерна и топливно-энергетических ресурсов на предстоящий осенне-зимний период. Для этих целей потребуется приблизительно 500 миллионов долларов США (из них 300 миллионов – для зерна, 200 – для топлива). «Поскольку эти закупки – дело совсем скорого будущего, указ может быть подписан в течение ближайших дней. 500 миллионов долларов для белорусской экономики – немалые деньги. Для сравнения: весь произведенный в республике в первом полугодии валовой внутренний продукт не превышает 2,2 миллиарда долларов в пересчете по рыночному курсу», – сказал А.Потупа.

На взгляд вице-президента БСП, увеличение процента обязательной продажи приведет к негативным последствиям в финансово-экономической сфере. Фактически будет введена государственная монополия на внешнеэкономическую деятельность, ликвидирована банковская система в части валютного обращения, увеличатся масштабы сокрытия валютной выручки, вырастет рыночный курс доллара. Следующими шагами, по мнению А.Потупы, могут стать запрет на хождение иностранной валюты среди населения и на выезд за рубеж.

**БелаПАН**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі........... 2-14-39
..............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 25 жніўня 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 7200 экз.
Заказ № 2297
© «Газета Слонімская»
Спасылка на «ГС» абавязковая
Ⓡ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://www.irex.minsk.by/gs

 



СПОВЕДЗЬ

# ДАРУЙ, НАДЗЕЯ...

**Мілая, харошая! Ты так хацела жыць! З роднай Украіны прыехала да брата ў вёску Накрышкі Дзятлаўскага раёна са шчырым спадзяваннем, што тут выратуешся ад смерці. На Украіне за лячэнне ўжо трэба плаціць, а ў Беларусі гэта яшчэ робяць бясплатна. Ты спазнілася, Надзея... З нядаўняга часу і ў нас іншаземцам трэба плаціць за медыцынскія паслугі. А ты іншаземка.**

На кожнай вялікай чыгуначнай станцыі выклікалі "хуткую дапамогу". Рабілі ўколы, і ты ехала далей. Слабая, ледзь жывая. Цукровы дыябет амаль дабіў цябе. А тут яшчэ невыносны боль нагі. Гангрэна... Патрэбна тэрміновая ампутацыя.

Калі цябе паклалі ў Дзятлаўскую раённую бальніцу, урачы жахнуліся: хваробы настолькі запушчаныя, што і ўявіць цяжка. Медыкі пачалі рыхтаваць цябе да аперацыі з той умовай, што заплаціш за яе. Але як ты магла заплаціць, калі за душой ні капейкі, калі дома пакінула чацвёра дзяцей амаль што без сродкаў для існавання.

За аперацыю і дзесяцідзённае пасляаперацыйнае лячэнне трэба было аддаць 112 мільёнаў рублёў. Не аказалася такіх грошай і ў брата. Яго жонка з дачкой, плачучы, прыйшлі да мяне:

— Дапамажыце! Нас прыслала доктар...

Чым і як дамагчы, дзе ўзяць гэтыя мільёны?! Мы разам пайшлі па раённых інстанцыях, прасіць паратунку. Але з гэтай сітуацыі было толькі адно выйсце: трэба знайсці грошы і заплаціць. І твае братавая з пляменніцай пазычылі ў добрых людзей даляры, абмянялі іх на беларускія мільёны і ўнеслі плату ў бальнічную касу. Каб хоць неяк дапагчы ім вярнуць грошы, я звярнулася ў Дзятлаўскія банкі з просьбай адкрыць рахунак для збору сродкаў на тваё лячэнне. У гэтым было адмоўлена, сказалі, што патрэбны дазвол Міністэрства аховы здароўя. Але займацца гэтым не было часу, ды, відаць, не было і сэнсу.

А хвароба прагрэсіравала. У цябе пачаўся сепсіс, іншымі словамі, заражэнне крыві. Паколькі грошы за аперацыю былі заплачаны, медыкі паклалі цябе на аперацыйны стол.

А мы збіралі грошы... Супрацоўнікі абанементнага аддзела раённай бібліятэкі, казлоўшчынскія бібліятэкары ўзялі на сябе гэту справу. Мы з загадчыцай абанементнага аддзела раённай бібліятэкі Ларысай Шыцько пайшлі з працягнутай рукой па ўстановах райцэнтра. Тлумачылі сітуацыю, прасілі. У некаторых месцах натыкаліся на нядобразычлівыя позіркі і слухалі словы, ад якіх стыне кроў у жылах: "А чаму мы павінны ёй дапамагаць?", "Чаго яна сюды ехала, няхай бы там лячылася?", "Яна іншаземка, а тут сваіх лячыць не паспяваем".

Мы назбіралі некалькі мільёнаў і хацелі занесці іх табе ў бальніцу, але тут патэлефанавала твая братавая і з плачам паведаміла, што ты... памерла! Табе аднялі нагу, але было надта позна...

Мы хутчэй кінуліся па ўстановах аддаваць сабраныя грошы, каб людзі не падумалі чаго нядобрага: збіралі на лячэнне, а чалавека ўжо няма.

Твой муж прыехаў з Украіны, калі ты яшчэ была жывая. А дзеці... Ім нават не паведамілі, што ты памерла, Надзея! А што толку паведамляць? Толькі заўчасна прыносіць боль, бо аб тым, каб завезці цябе на радзіму і там пахаваць, не магло быць і размовы. Дзе ж набрацца столькі грошай? Дзяцей сюды прывезці таксама не выпадала.

— За якія сродкі? У іх там нават на хлеб няма, — казала мне адна знаёмая.

На другі дзень пасля смерці цябе пахавалі на вясковых могілках у Накрышках. Непадалёку ад хаты, дзе жыве брат.

Даруй, Надзея! Даруй сваіх няшчасных дзетак, што не прыехалі развітацца з табой, паплакаць над тваёй труной. Не іхняя ў тым віна. Яны будуць плакаць па табе ўсё жыццё, асабліва меньшанькая, Таня, якая восенню пойдзе толькі ў пяты клас.

Даруй наша грамадства і нашу дзяржаву. Пасля таго, як у бліжнім замежжы лячэнне стала платным, у Беларусь адусюль пачалі ехаць няшчасныя людзі дзеля выратавання свайго жыцця. Ну, лячэнне — няхай бы. Калі пытанне жыцця і смерці востра не стаіць — няхай бы плацілі і лячыліся. А ты ж памірала, Надзея! Ты ляжала на бальнічным ложку, і твар твой быў бялейшы за навалачку на падушцы. І толькі калі плакала, шчокі крыху чырванелі. Ты плакала і прасіла аб дапамозе, бо ў свае 44 гады так хацела жыць, а мы ў адчаі бегалі па Дзятлаве ў пошуку грошай.

Калі пачалася вайна ў Югаславіі, мы крычалі пра братоў-славян, маўляў, дапаможам ім у бядзе. Ты ж таксама была славянкай. Тваё жыццё было ацэнена ў 112 мільёнаў. Каб мы знайшлі іх своечасова, можа ты сёння ўсміхалася б жнівеньскаму сонейку, чакала б пісьма ад дзяцей, а не ляжала б, адзінокая, пад хвойкамі на Накрышскіх могілках.

Даруй, Надзея, і не помні зла, бо як бы там ні было, а цябе ратавалі. Дзятлаўскія ўрачы рабілі ўсё магчымае, каб вырваць цябе з лапаў смерці. Толькі і яны, на вялікі жаль, не багі. Не іх віна, што хваробы твае былі моцна запушчаныя і што лячэнне для іншаземцаў стала платнае.

Простыя людзі, якія, таксама як і ты, сталі заложнікамі галечы, і ў чыіх душах жыве спагада і дабрыня, збіралі для цябе грошы. Але, на вялікі жаль, іх было няшмат. І ў гэтыя пакутлівыя дні, калі ты памірала, я вельмі востра адчувала: бяда нашага грамадства не ў матэрыяльнай галечы, а ў духоўнай. З людскіх сэрцаў знікла спагада да беднага і хворага. Многія жывуць па прынцыпу "абы мне было добра".

Калі ты памерла, Надзея, мы зноў пачалі збіраць грошы. Цяпер ужо для тваіх дзяцей, каб хоць неяк падтрымаць іх у горы. Склалі разам сабраныя сотні тысяч і купілі 50 даляраў. Іх павязе дадому твой муж. Што ён будзе казаць сынам і дочкам, як суцяшаць іх?

А ты назаўсёды застанешся ў Беларусі.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

# КРЕСТЬЯНЕ ТОЖЕ ХОТЯТ ЕСТЬ

***Я пишу о проблеме, которая уже давно волнует не только меня, но и других жителей деревни Сеньковщина, а также близлежащих деревень, пользующихся услугами продовольственного магазина.***

Через "ГС" я хотела бы обратиться к председателю сельпо, так как благодаря его "чуткому руководству" прилавки магазина пустуют неделями. Не кажется ли ему, что жители деревни хотят есть не только во время районных и областных семинаров, которые часто проводятся в Сеньковщине.

Видели бы вы, что творится накануне семинаров: в магазине полно разного рода начальников, без устали дающих "ценные указания" продавцам, а те, бедняжки, не знают, кого и слушать... Через определенные промежутки времени подвозятся продукты. Мы, покупатели, напоминаем голодных собак, которым бросают кость. Пришел чуть позже — уже разобрали. Это настолько жестоко и бесчеловечно, что мы собираемся обращаться к президенту РБ...

Но вот семинар закончился, и в магазине невозможно купить даже конфету.

Неужели жители села, которые сейчас работают с утра до вечера, не заслужили того, чтобы продукты питания привозили к ним в магазин?

Мы не принимаем абсолютно никаких объяснений, оправданий и отговорок. В магазине должно быть все необходимое! И за колбасными изделиями мы не должны ехать в город (на это просто и времени нет!).

Если вопрос решен не будет, мы будем стучаться в другую дверь, но уже повыше.

**Лилия Прудникова,**
**жительница**
**д. Сеньковщина.**

ПОШТА

# ЦІ ПАТРЭБНА БЕЛАРУСАМ РОДНАЯ МОВА?

***"Вядома, не", — адкажа пераважная большасць насельнікаў Беларусі. Дык давайце паразважаем разам, чаму беларусам не патрэбна іх родная мова?***



Найперш, відаць, прычына ў тым, што амаль нікога гэтае пытанне не хвалюе. А чаму так?

"Дзе любоў, там і Бог", — сцвярджае Біблія. Значыць, за гады савецкай улады адвярнулі нас і ад роднай мовы, і ад рэлігіі. Лозунг камуністаў "Росквіт і зліццё нацый" і зараз працягвае сваё шэсце па нашай зямлі. Каму ж выгадна "зліваць" нацыі? Тым краінам, якія можна назваць імперыямі. Да іх адносіцца і Расія, якая пастаянна з некім ваюе за свае інтарэсы. З Беларуссю ж можна ваяваць вось як: выхоўваць нацыянальную абыякавасць, пагарду да свайго, роднага, крэўнага, дарагога. Некалі паэт Ніл Гілевіч сказаў, что беларусы вызначаюцца "самаедствам". Хто смяецца са сваёй мовы? — Беларусы. Хто хіліцца да чужога, а не да свайго? — Беларусы. Дык што, мы ўкралі нешта ў людзей, каб баяцца, адракацца ад свайго?

*Чаго вам хочацца,*
*панове?*
*Які вас выклікаў*
*прымус*
*Забіць трывогу*
*аб той мове,*
*Якой азваўся*
*беларус?*
*Чаму вам дзіка*
*яго мова?*
*Паверце, вашай ён*
*не ўкраў,*
*А толькі ўспомніў*
*сваё слова,*
*З якім радзіўся,*
*падрастаў...*

Пісаў Я. Купала ў вершы "Ворагам беларушчыны". "Дзікая" мова беларуская для тых, хто марыць, што Беларусь, як "акно ў Еўропу" для Расіі, хутка стане яе часткай. А для гэтага патрэбна асімiляраваць беларускую нацыю: паўсюдна ўводзіць рускую мову і сцвярджаць, што яна і прыгожая, і прыстойная, і чалавечная, а беларуская мова — нявартая ніякай пашаны. А ці так гэта? Скажыце, ці ёсць у беларускай мове "матныя" словы? Няма. Усе яны прыйшлі з рускай мовы. І гэтая пошасць пашыраецца зараз з неймавернай хуткасцю. Мы можам пачуць "нецэнзуршчыну" амаль паўсюдна. Хаця настаўнікі беларускай мовы вучаць дзяцей высокай паэзіі. Сярод паэтаў Беларусі пачэснае месца адводзім М. Багдановічу і Я. Купале. Так, настаўнікі беларускай мовы прысутнічалі на ўроку ў школе, СШ №2 г. Слоніма, дзе настаўніца Р. К. Міжурына правяла з дзецьмі ўрок па тэме "Водгукі антычных ідэй і вобразаў у лірыцы М. Багдановіча". Р. К. Міжурына пасля гэтага ўрока атрымала запрашэнне на ўдзел у канферэнцыі па тэме "Вывучэнне беларускай паэзіі ў кантэксце сусветнай", якую праводзіў Гродзенскі дзяржаўны універсітэт. Настаўнік СШ №4 Э.І. Мікілевіч правёў адкрыты ўрок у форме дыскусіі па тэме "Паэзія Я. Купалы і беларускасць". На высокім культурным і мастацкім узроўні дзесяцікласнікі аналізавалі лірыку Купалы, які будзіў "сон" нацыі, як біблейскі прарок. Купала-прарок клікаў беларусаў пастаяць за сябе, за сваю мову, край. Яны ж яму ў адказ: "А колькі нам дасі чырвонцаў, калі мы пойдзем за табой?" Як гэта падобна на сучаснае: "А колькі каўбасы дасць нам ваша беларускасць?". Біблія ж вучыць: "Не хлебам адзіным жыве чалавек, а словам Божым". Настаўнікі беларускай мовы нясуць гэтае слова дзеткам, роднае беларускае слова.

З цікавасцю вывучаюць родную мову і вучні рускамоўных школ горада, я маю на ўвазе 9-ую і 5-ую школы, дзе вучацца, у асноўным, дзеці вайскоўцаў. Мы былі сведкамі таго, як настаўнікі СШ №9 І. М. Старчанка, Г. С. Лапато, СШ №5 Н. М, Навіцкая, З. І. Карповіч змаглі паказаць, як яны асвойваюць тэхналогію развіццёвага навучання ў працэсе вывучэння беларускай мовы, як выхоўваюць дзяцей сродкамі роднай мовы. Сапраўднымі патрыётамі роднага слова можна назваць Т. І. Вянскоўскую (СШ №1) і Н. В.Міхальчэню ( СШ №8).

У горадзе аднавіла працу ТБМ. У асноўным, у яго ўваходзяць настаўнікі і бацькі СШ №5 і СШ №10. Настаўніца англійскай мовы А. М. Пыркова выбрана членам абласной Рады ТБМ. Мы ўдзельнічалі ў акцыі па падпісцы "Нашага слова" — органа ТБМ, а таксама заказалі малебен 27 чэрвеня па падтрымцы роднай мовы.

Як жа ў нашым горадзе пастаўлены справы з адкрыццём беларускамоўных першых класаў? Можна сказаць, што на нулі. Русіфікацыя працягваецца, яна поўным ходам ідзе ў школы. Чыноўнікі адукацыі спасылаюцца на тое, што няма жадання бацькоў вучыць дзяцей па-беларуску. І калі бацькам ўсё роўна, то трэба, каб настаўніцтва і інтэлігенцыя сказалі свае слова ў абарону роднай мовы. Хоць "каўбасы" нам мова не прыбавіць, але дасць уцеху для душы і падтрымку ў цяжкую хвіліну. А гэта грунт, аснова моцы чалавечай асобы. Бо хлусня тое, што наша мова бедная. У Бібліі напісана: "Хлусня не мае пад сабой грунту, асновы". Вось чаму я хачу звярнуцца праз газету да інтэлігенцыі, рабочых, служачых горада і раёна, каб яны выступілі ў абарону роднай мовы. Толькі пасля нашых намаганняў можна будзе дачакацца таго, што ў горадзе з'явяцца беларускамоўныя першыя класы.

**Таццяна Трафімчык,**
**старшыня гарадской**
**суполкі ТБМ**

 

НАВІНЫ

### Ученые обследовали монастырскую липу

**Недавно ученые Института экспериментальной биологии Национальной академии наук обследовали вековую липу, которая растет во дворе Жировичского монастыря.**

Специалисты должны были поставить диагноз: здорова ли липа? Ботаники пришли к выводу, что ее жизнеспособность удовлетворительная. Однако большая дуплистость дерева вызывает тревогу. Поэтому предложено пломбировать дупла и поставить растяжки. Кроме того, ученые определили возраст монастырской липы. Ранее считалось, что дереву около трехсот лет. На самом же деле липа была посажена только два столетия назад. Поэтому утверждения о том, что к её посадке имеет какое-то отношение русский император Пётр I, совершенно безпочвенны.

**Олег ТОЧЁНЫЙ**

### Чаго варты чалавек?

Жанчыне, якая знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку за даглядам дзіцяці, дзяржава плаціла ў жніўні бягучага года крыху болей трох мільёнаў рублёў, а на догляд міліцэйскай сабакі-аўчаркі ў службе аховы выдавалі сем мільёнаў рублёў.

### Дапамагаюць — абіраюць

**На тэрыторыі АТ "Мастоўдрэў" існуе крама, у якой рабочыя аб'яднання, назваўшы свой табельны нумар і прозвішча, могуць набыць тавары ў лік заработнай платы.**

Праўда, кошт тавараў там большы, чым у крамах і на рынку. Акрамя таго, асартымент тавараў невялікі.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

### Павысілі пенсію мінёрам

**3 першага жніўня бягучага года ўдзельнікам Вялікай Айчыннай вайны, якія прымалі ўдзел у разміраванні тэрыторый пасля нямецкай акупацыі ў 1943-1945 гадах павышаны пенсіі на сто працэнтаў ад мінімальнай пенсіі па ўзросту.**

Гэта значыць, пенсія гэтай катэгорыі людзей павялічыцца на адзін мільён пяцьсот тысяч.

### Дзяцей-інвалідаў падзялілі

**3 першага верасня мяняецца памер выплат пенсій дзецям-інвалідам.**

Калі да нядаўняга часу гэтым людзям плацілі 150% ад мінімальнай пенсіі па ўзросту, дык зараз унесены наступныя змены. Для тых, хто мае першую ступень страты здароўя памер выплат застаецца такім жа, другой ступені — 175% ад мінімальнай пенсіі па ўзросту, трэцяй — 200%, чацвёртай — 250%.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

Григорий ЯВЛИНСКИЙ:

## «ХОТИТЕ ЗАНИМАТЬСЯ ИНТЕГРАЦИЕЙ — ЗАНИМАЙТЕСЬ КОНКРЕТНЫМИ ЭКОНОМИЧЕСКИМИ ВЕЩАМИ»



Неминуемы проблемы и с нашими республиками, входящими в состав Российской Федерации. Мы только-только установили какой-то баланс, благодаря мудрости некоторых региональных лидеров, таких как, скажем, Шаймиев, и опять собственными руками насаждаем нестабильность.

Подстерегают нас и отдаленные политические проблемы. Пакт Молотова - Риббентропа юридически ничтожен, и, следовательно, западные территории Беларуси сразу окажутся спорными, как только сама Беларусь станет правопреемницей СССР. Пока Беларусь есть Беларусь, граница вопросов не вызывает — их некому задавать. Но как только эта территория станет частью России и правопреемницей СССР, сразу же возникнет эта проблема. Она повлечет за собой прямое соприкосновение с НАТО и не оставит равнодушным польское правительство. Оно, наверное, не сразу начнет этим заниматься, но и в Беларуси, и в Польше появятся силы, которые станут акцентировать на этом внимание.

И, наконец, чисто экономические проблемы. У нас разное состояние экономики, ее механизмов. Отличаемся мы и по уровню жизни. Бездумное, механическое объединение, как и бездумное, в свое время, разъединение, приведет к очень большим осложнениям.

Мы не можем ожидать положительных изменений ни в одном направлении. СНГ находится в очень тяжелом состоянии, но все-таки пока существует. И все входящие в него страны будут говорить, что это аннексия России, что мы манипулируем общественным мнением суверенной Беларуси и что мы можем подобное затеять и с кем-то другим. Я принципиальный сторонник того, чтобы все ближайшее время Россия занималась собой.

Что же тогда движет Ельциным и Лукашенко, которые выступают инициаторами союза? Вполне возможно, что Ельцину это необходимо для того, чтобы сохранить свое президентское положение и после 2000 года. Если такой союз будет учрежден, то в нем, можно, пожалуй, и не избираться: назначается президент союзного государства. Такой сюжет устраивает и Лукашенко. Он полагает, что сможет Ельцина переиграть и выйти на российскую политическую арену, неважно, в конце концов, в каком качестве — объединенном, разъединенном — и войти в нашу политическую жизнь, стать здесь действующей политической фигурой.

Возможностей для прогнозов здесь я не вижу, поскольку мы имеем дело с двумя людьми, которые не считаются ни с чем, могут принимать любые решения, в любой форме.

Они будут двигаться в том же направлении, цинично используя чувства людей: дружбу, братство, боль за разваленную страну. Если идет откровенная игра на чувствах людей, то здесь и референдум пройдет без труда не составит. Задайте вопрос: хотите ли вы жить в мире и дружбе с белорусским народом? И вам все сто процентов ответят — да, хотим. Ну и правильно ответят.

Вот, собственно, и все. Экономический союз — да. Объединение двух государств — нет. Такова моя формула. Никаких надгосударственных политических органов в виде всеобщего президента, или парламента, или правительства, — такого нельзя допускать. Мы предлагаем начать с экономического союза, с последовательного движения к такой экономической интеграции, какая есть в Европе, с выработки правил, использования взаимных возможностей. При этом необходим учет различий в потенциале наших стран, в численности населения, в экономических ресурсах. Например, мы считаем, что должен быть банковский союз. В него все входят на равных, однако, участие, в смысле голосов, должно быть пропорционально возможностям каждого государства.

Текст договора для создания экономического союза был «Яблоком» разработан, опубликован, наконец, официально передан и Лукашенко, и Ельцину. Ответ от администрации белорусского президента был очень общим и сводился к тому, что Беларусь — суверенное государство и никаких действий по ущемлению своего суверенитета не потерпит. С этим я, например, согласен. Но тогда о чем вообще речь?

Со стороны российского президента прорабатываются лишь политические решения. Если действительно страны хотят вести интеграционную политику — это предмет для переговоров. А когда с порога все отметают, остается пожать плечами: мы к вам не пристаем, вы же все время сюда ездите, чего-то добиваетесь. Если вас не интересует экономика, значит, вас не интересуют люди, их беды, уровень жизни, их достаток. Вас интересует, как бы получить площадку для дальнейшего увеличения своего политического влияния на территории Российской Федерации. А мы не хотим, чтобы ваше влияние у нас увеличивалось. То, что вы делаете в Беларуси, нас не совсем устраивает. Хотите заниматься интеграцией — занимайтесь конкретными экономическими вещами. Все остальное мы рассматриваем как покушение на власть России. А у нас и без вас проблем хватает.

**БелаПАН**

НАВІНЫ

### Медвучылішча прыняло папаўненне

**180 юнакоў і дзяўчат з розных куткоў Беларусі нядаўна сталі навучэнцамі Слонімскага медвучылішча.**

Як паведаміў карэспандэнту "ГС" намеснік дырэктара вучылішча Ігар Грыцук, сёлета значна паменшылася колькасць жадаючых набыць прафесію медыка. А ў Мінскім, Гродзенскім, Гомельскім і Маладзечанскім медвучылішчах, наогул, недабор навучэнцаў. На яго думку, прычына таму — скасаванне ў гэтым годзе ільгот для "медалістаў", якія раней прымаліся ў вучылішчы без уступных экзаменаў.

Упершыню ўступныя экзамены "на выданне" не здаў ніводзін абітурыент.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Свята кветак

**У Дзятлаве адбылося свята кветак.**

Самыя прыгожыя і арыгінальныя букеты прадставілі медыкі. А прэмія за найбольшую колькасць букетаў дасталася бытавікам. Сярод індывідуальных удзельнікаў пераможцай стала пенсіянерка Валянціна Яловік.

### Узнагарода за старанні

**Выпускніца дзятлаўскай СШ №2 Наталля Урбановіч стала студэнткай Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта не здаваўшы экзамены і не праходзіўшы субяседавання.**

Справа ў тым, што Наталля — пераможца алімпіяды па матэматыцы, якую ў мінулым навучальным годзе праводзіў універсітэт. Яна залічана на факультэт эканомікі і кіравання.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

### Условия оппозиции

**Белорусская оппозиция одним из условий начала диалога с властями при посредничестве ОБСЕ называет «освобождение из под стражи политзаключенных».**

В частности, задержанного по обвинению в совершении преступлений экономического характера экс-главы правительства республики Михаила Чигиря.

### Кучма выступает против союза

**Президент Украины Леонид Кучма выступает против присоединения Украины к Союзу России и Беларуси.**

Об этом он заявил на пресс-конференции в Чернигове в воскресенье. Отвечая на вопрос журналистов, президент сказал: «Мы в союзе уже были, и не надо нам идти никуда». Планируется, что президент Беларуси Александр Лукашенко посетит с визитом в конце сентября Калининградскую область России.

**Интерфакс**

ЗДАРЭННІ

### Надакучыла жыць

**Трагедыя адбылася ў вёсцы Навасады Дзятлаўскага раёна.**

Маладая жанчына пайшла ў пуню і павесілася. Было ёй усяго 24 гады.

### Няпрошаныя госці

**У кватэру, дзе жыве грамадзянка Н. з пасёлка Гезгалы Дзятлаўскага раёна, уварваліся двое незнаёмых жанчын.**

Яны ўчынілі скандал, паппсавалі мэблю і іншыя рэчы.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

### Інвалід раз'юшыўся

**На мінулым тыдні інвалід 2 групы, які жыве ў вёсцы Яхноўшчына Дзятлаўскага раёна, напіўшыся да бяспамяцтва, пачаў лупцаваць сваю жонку, дачку і суседку.**

Змаглі яго ўтаймаваць толькі супрацоўнікі міліцыі, якія прыехалі на месца здарэння.

### Пакінулі без нагляду

**Няшчасны выпадак нядаўна здарыўся ў Мастах.**

Немаўля, пакінутае без нагляду, удавілася абрыўкам паветранага шарыка і памерла.

### Пераблытаў бутэлькі

**Пятніца, 13 жніўня, стала апошнім днём жыцця для жыхара вёскі Дарагляны Мастоўскага раёна.**

У сваім доме ён памылкова замест гарэлкі выпіў ядахімікат "Каратэ".

Ад атручвання ён памёр у бальніцы.

### Загінулі ў агні

**47-гадовы жыхар вёскі Пенчыцы Дзятлаўскага раёна, будучы ў нецвярозым стане, згарэў ва ўласнай хаце.**

Пазней высветлілася, што мужчына заснуў у ложку з папяросай.

Аналагічная трагедыя здарылася і ў Мастах, дзе 29-гадовы мужчына ў нецвярозым стане курыў у ложку. У выніку ён загінуў у агні.

**Міхась ЗАГОРСКІ**

### Не хацеў у армію — атправілі ў турму

**Праваахоўныя органы Зэльвы арыштавалі Віталя Камякевіча з вёскі Падбалоцце.**

Ён абвінавачваецца ў тым, што ўхіляўся ад выканання вайсковага абавязку. На працягу чатырох гадоў малады мужчына хаваўся ў Мінску і ў Літве. Затрымалі яго тады, калі Камякевіч захварэў і вырашыў палячыцца.

**Лявон ЯСЕНЬ**

### Чарговы суіцыд

**У Мастах павесіўся дваццаціпяцігадовы жыхар М.**

Прычынаю самагубства стала сямейная спрэчка. Сіротамі засталіся двое дзетак.

**Антон МАКЕЙ**

### Не пажывіўся

**56-гадовы, двойчы асуджаны слонімец С., днём залез у хлеў жыхаркі з завулка Сацыялістычнага М. і ўкраў парася.**

Злодзей паспеў прададць жывёліну, але патраціць выручаныя грошы не здолеў, яго хутка "вылічыла" міліцыя.

### Затрыманы з доказамі злачынства

**У калгасе імя Заслонава Дзятлаўскага раёна міліцыя затрымала дваіх маладых мужчын, якія спрабавалі ўкрасці на полі 240 кг клубніц.**

А ў Слоніме супрацоўнікі крымінальнага вышуку затрымалі злодзея, які выцягнуў з кішэнняў адзення супрацоўнікаў рэстарана "Шчара" шэсць кашалькоў з грашыма.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

